# АТЛАС

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
### другая палова XVI — XVIII ст.

# 8
клас

УДК 94(476)(075.3=161.3=161.1)
ББК 63.3(4 Беи)я 721
Г 51

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## другая палова XVI – XVIII ст.

## Атлас

**Вучэбны дапаможнік для 8 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання**

***Дапушчана Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь***

Атлас складзены і падрыхтаваны да друку
Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“
Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь у 2008 г.

Спецыяльны змест атласа распрацавалі:
І. А. Аўдзееў, А. В. Перзашкевіч

Навуковы рэдактар П. Ф. Дзмітрачкоў



**ISBN 978-985-508-387-1**

Дарагія сябры!

Вы, напэўна, зразумелі, што ведаць гісторыю вельмі важна. Бо яна з'яўляецца для чалавека невычарпальнай скарбніцай каштоўнасцей. Але нават у гэтай безлічы скарбаў ёсць тое, што складае, бадай, самае патаемнае і істотнае для кожнага чалавека. Гэта гісторыя яго продкаў, яго Бацькаўшчыны. Для нас з вамі гэта гісторыя Беларусі.

Як вы памятаеце, ужо ў другой палове XIII – XIV ст. беларускія землі былі ўключаны ў склад Вялікага княства Літоўскага. З канца XIV ст. пачалося зблiжэнне ВКЛ з Польшчай, а ў 1569 г. яны аб'ядналіся ў адну дзяржаву – Рэч Паспалітую. З гэтых падзей і пачынаецца новы і вельмі значны перыяд у гісторыі Беларусі. То быў час далейшага развіцця дзяржаўнасці на беларускіх землях, час магутных палітыкаў і вайскоўцаў, час славутых асветнікаў і навукоўцаў, час, калі беларусы склаліся як этнас.

Значныя падзеі адбываліся ў XVI – XVIII стст. і ў іншых краінах Еўропы. Адзначаны час бачыў росквіт славянскага кнігадрукавання, Люблінскую і Берасцейскую уніі, громападобны поступ Багдана Хмяльніцкага, спыненне турэцкай навалы, уздым і заняпад Швецыі, утварэнне Расійскай імперыі і першыя еўрапейскія Канстытуцыі.

Кожная тэма ў атласе займае дзве старонкі і адпавядае якому-небудзь істотнаму перыяду нашай гісторыі або значнай гістарычнай з'яве. Адкрывае тэму малюнак-сімвал і тлумачальны тэкст, затым ідзе карта, прысвечаная гістарычным падзеям на Беларусі, і ілюстрацыі да гэтых падзей. Другая старонка прысвечана адпаведным па часе падзеям ва Усходняй Еўропе, часткай якой з'яўляецца Беларусь.

Спадзяёмся, што атлас будзе для вас цікавым і карысным і дапаможа ў вывучэнні і асэнсаванні гісторыі Беларусі другой паловы XVI – XVIII ст.

Жадаем поспехаў!

І. А. Аўдзееў, П. Ф. Дзмітрачкоў, А. В. Перзашкевіч

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

**Межы**
- дзяржаў
- залежных тэрыторый, асобных зямель, княстваў
- іншых тэрыторый
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**Населеныя пункты**
- Сталіцы дзяржаў
- Цэнтры залежных тэрыторый, асобных зямель, княстваў, ваяводстваў ВКЛ
- Іншыя

**Месцы і гады**
- 1564 значных бітваў
- 1667 падпісання мірных дагавораў

Заўвага. Іншыя ўмоўныя знакі, якія змешчаны ў легендах карт на старонках атласа, у дадзеную табліцу не ўключаны.

# УТВАРЭННЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ



Акт Люблінскай уніі

У 1548 г. каралём польскім і вялікім князем літоўскім стаў Жыгімонт II Аўгуст. Праз дзесяць гадоў пачалася Лівонская вайна, якая ўскладніла становішча ВКЛ, і яно вымушана было пайсці на далейшае збліжэнне з Польшчай. 1 ліпеня 1569 г. на сойме ў Любліне была заключана дзяржаўная унія, якая аб'яднала Польшчу і ВКЛ у адзіную дзяржаву – Рэч Паспалітую. Але падчас падрыхтоўкі уніі да Польшчы быў далучаны шэраг зямель ВКЛ, і яго межы зменшыліся.






Ян Караль Хадкевіч



Люблінская унія



Жыгімонт II Аўгуст

У другой палове XVI ст. галоўны напрамак знешняй палітыкі ВКЛ перамясціўся з поўдня на ўсход Прыбалтыкі. Тут на землях сучасных Латвіі і Эстоніі дажываў свае дні Лівонскі ордэн. Ордэн канчаткова аслабеў і немінуча павінен быў стаць здабычай сваіх больш магутных суседзяў – Польшчы, ВКЛ і Швецыі. Нечакана ў справу ўмяшалася Расія. У 1558 г. рускія войскі напалі на землі ордэна. Так пачалася Лівонская вайна. Пасля заключэння Люблінскай уніі ў вайну ўступіла і Польшча. У 1583 г. цяжкая Лівонская вайна скончылася заключэннем мірных пагадненняў. Мяжа паміж ВКЛ і Расійскай дзяржавай засталася амаль без зменаў. У 1587 г. на прастол Рэчы Паспалітай быў абраны Жыгімонт III Ваза, які меў правы і на шведскую карону. Рэч Паспалітая і Швецыя на нейкі час аб'ядналіся ў асабістай уніі свайго караля.










1. Іван Грозны
2. Стафан Баторый пад Псковам

# РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ у другой палове XVI ст.




„Граматыка славенская“
Л. Зізанія

У пачатку XV ст. у ВКЛ, у тым ліку і на беларускіх землях, значна ўзмацніла свае пазіцыі каталіцкая царква. Каталіцкія біскупы ўваходзілі ў склад паноў-рады. Да таго ж і сам гаспадар, і большасць паноў-рады былі каталікамі. Умацаванне каталіцтва ішло за кошт аслаблення праваслаўя. Разам з тым на беларускіх землях шырокае распаўсюджанне атрымалі ідэі Рэфармацыі. Найбольшых поспехаў тут дасягнулі кальвіністы. Хутка для барацьбы з імі ў ВКЛ прыбылі езуіты. Яны ўзялі за мэту скасаваць у ВКЛ не толькі Рэфармацыю, але і праваслаўе. У 1596 г. была заключана Берасцейская унія, якая паставіла праваслаўную царкву ў надзвычай цяжкае становішча.




**Канфесіянальны склад насельніцтва Рэчы Паспалітай**
(у працэнтах)




1. Каталіцкі касцёл
2. Праваслаўны храм
3. Васіль Цяпінскі


1


2


3

# АДРАДЖЭННЕ І РЭФАРМАЦЫЯ Ў ЕЎРОПЕ

З XV ст. амаль усю Еўропу ахапілі ідэі Адраджэння. Італія, Францыя, Германія, Англія, Чэхія падаравалі сусветнай культуры Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Рафаэля, Франсуа Рабле, Дзюрэра, Гутэнберга, Шэкспіра. Найбольш значным беларускім дзеячам Адраджэння быў усходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына. Галоўнай рэлігійнай падзеяй XVI ст. стала Рэфармацыя. Вучэнні Лютэра, Цвінглі і Кальвіна хутка апанавалі значную частку Еўропы. У Германіі, Швейцарыі, Францыі, Англіі будаваліся пратэстанцкія храмы, альбо малельныя дамы, адкрываліся школы і друкарні. На тэрыторыі Беларусі найбольшую вядомасць набылі Слуцкая кальвіністская школа, а таксама друкарні ў Нясвіжы, Берасці, Лоску.











1. Біблія Лютэра
2. „Катэхізіс“ Сымона Буднага
3. Астрожская Біблія

# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ ў першай палове XVII ст.
# КАЗАЦКА-СЯЛЯНСКАЯ ВАЙНА 1648–1651 гг.



Казацкі герб

З канца XVI ст. на землях Беларусі і Украіны абвастрыліся як сацыяльныя, так і рэлігійныя супярэчнасці. Гэта было звязана з развіццём фальваркова-паншчыннай гаспадаркі, распаўсюджваннем уніяцтва. І хаця ў 1632 г. Уладзіслаў Ваза аднавіў праваслаўную царкву, правы праваслаўных засталіся абмежаванымі. Не вырашаным было і „казацкае пытанне“. Казакі былі пазбаўлены ўсіх сваіх вольнасцей і ўрэшце ў 1648 г. абралі гетманам жорсткага праціўніка Польшчы – Багдана Хмяльніцкага. Пачаўся шырокі вызваленчы рух, які хутка распаўсюдзіўся і на тэрыторыю Беларусі.






Ян Казімір



Багдан Хмяльніцкі



Януш Радзівіл



Запарожскія казакі

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ у першай палове XVII ст.

У 1600 г. асабістая унія паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй была скасавана. Паміж Жыгімонтам III і яго дзядзькам Карлам пачалася барацьба за шведскі прастол. Хутка разгарнуліся ваенныя дзеянні, вынікам якіх стала заключэнне дагавораў у Мітаве і Альтмарку паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай. Паводле гэтых дагавораў Рэч Паспалітая страціла Ліфляндыю. Змянілася сітуацыя і на ўсходзе. Пасля смерці цара Барыса Гадунова ў Расійскай дзяржаве пачалося безладдзе. Жыгімонт III вырашыў скарыстаць сітуацыю і захапіць маскоўскі прастол. У 1610 г. войскі Рэчы Паспалітай занялі Маскву. Маскоўскі цар Васіль Шуйскі быў узяты ў палон. Новым царом стаў сын Жыгімонта III Уладзіслаў Ваза. У 1612 г. расійскае народнае апалчэнне вызваліла Маскву. Але ваеннае супрацьстаянне працягвалася. Не сціхала і барацьба з Турцыяй і Крымам, у якой асноўную ролю пачалі адыгрываць украінскія казакі.






Васіль Шуйскі дае прысягу Жыгімонту III

# ВКЛ у другой палове XVII ст.



Герб Рэчы Паспалітай

Вайна з Расіяй і Швецыяй каштавала ВКЛ шматлікіх ахвяр, галечы і бязладдзя. У гэты час сапраўдным кіраўніком дзяржавы была каралева Луіза Марыя дэ Ганзага, якая поўнасцю падмяніла свайго мужа Яна Казіміра. У 1668 г. пасля смерці жонкі пад націскам кароннага гетмана Любамірскага Ян Казімір быў вымушаны адмовіцца ад прастола. Дынастыя Вазаў у Рэчы Паспалітай скончылася. Новы кароль Міхал Вішнявецкі, хоць і займаў месца на прастоле, не меў ніякага ўплыву на падзеі ў дзяржаве. Не нашмат лепшым быў і Ян Сабескі. Пакуль ён ваяваў з туркамі, у краіне ўладарылі магнаты. А калі Ян памёр, пачалася сапраўдная магнацкая вайна.






1



2



3



4

1. Каронны гетман Любамірскі
2. Ян Сабескі
3. Магнат
4. Шляхціц

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ у другой палове XVII ст.

У 1654 г. адбылася Пераяслаўская рада. Украінскі бок абвясціў аб сваім пераходзе пад уладу рускага цара. Такім чынам у склад Расіі ўваходзіла ўся Левабярэжная і частка Правабярэжнай Украіны з Кіевам. Пасля гэтага Хмяльніцкі прапанаваў Аляксею Міхайлавічу распачаць вайну супраць Рэчы Паспалітай, што і адбылося ў 1654 г. Напад Расіі на Рэч Паспалітую стаў сапраўдным падарункам для шведскага караля Карла Густава. У 1655 г. яго войскі таксама рушылі ў Польшчу і ВКЛ. Вайна скончылася заключэннем у 1660 г. Аліўскага міру, паводле якога Швецыя фактычна стала гаспадаром Усходняй Прыбалтыкі. У канцы стагоддзя Расія замацавала за сабой Смаленскую зямлю і Левабярэжную Украіну. Поспехамі Рэчы Паспалітай былі парамогі Яна Сабескага над туркамі пад Хацінам, Венай і Парканамі.





Ян Сабескі ідзе на вайну з туркамі


Турэцкія вершнікі

# ГАРАДЫ І ГАНДАЛЬ У ВКЛ у XVI–XVII стст.




Літоўскі грош

У XVI ст. у ВКЛ былі вельмі спрыяльныя ўмовы для развіцця гандлю і рамёстваў, таму колькасць гарадоў і мястэчак значна павялічылася. Роля мяшчанства прыкметна ўзрасла. Найбольш запатрабаванымі рамесніцкімі спецыяльнасцямі былі кавалі, краўцы, шаўцы, гарбары, цесляры, ганчары. Найвялікшыя прыбыткі жыхарам беларускіх зямель прыносіў гандаль. Вазілі і прадавалі тавары купцы, якія за гэта атрымлівалі пэўны працэнт, альбо інтарэс. Купцамі маглі быць мяшчане, яўрэі ці іншаземцы. Асабліва хутка развіваліся гарады і мястэчкі з самакіраваннем, якія атрымалі ўласныя гербы. Эканамічны ўздым быў спынены ваеннымі падзеямі другой паловы XVII ст.







Гербы гарадоў Вялікага княства Літоўскага: 1 – Берасце; 2 – Віцебск; 3 – Гародня; 4 – Полацк; 5 – Менск; 6 – Магілёў

# БУЙНЕЙШЫЯ МАГНАЦКІЯ ЎЛАДАННІ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ у XVII ст.

Магнаты займалі вышэйшую прыступку грамадства Рэчы Паспалітай. Але склад і становішча іх істотна змяніліся. Гаспадар ужо не лічыўся галоўным магнатам, бо ў абранага з чужаземцаў ці палякаў караля не было і не магло быць радавых уладанняў у ВКЛ. Усе сталі роўныя, але роўнасць гэта не была сапраўднай. З'явіліся новыя прынцыпы першынства: зямельныя ўладанні і палітычны ўплыў. Адмысловай прыкметай буйнога магната была і падначаленая толькі асабіста яму шляхта. У XVII ст. вызначаліся Радзівілы, Сапегі, Пацы, Любамірскія, Агінскія, Замойскія. Мацнейшымі з усіх былі Радзівілы. Іншыя магутнейшыя магнацкія роды саступалі Радзівілам, але былі таксама вельмі ўплывовымі. Таму ўсё стагоддзе змагаліся адзін з адным за першынство.






Герб Любамірскіх



Герб Радзівілаў



Герб Сапегаў



Герб Замойскіх

# РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ у XVII ст.



„Буквар“
Спірыдона Собаля

Контррэфармацыя, якая разгарнулася ў 80–90-я гады XVI ст., умацавала пазіцыі каталіцтва ў ВКЛ. Актыўна садзейнічалі таму каралі Рэчы Паспалітай і сойм, што складаўся пераважна з каталікоў. Езуіты бачылі сваю асноўную задачу ў канчатковым выкараненні ў ВКЛ праваслаўя і пратэстантызму. Каталіцкая царква ВКЛ у XVII ст. выконвала загад папы рымскага, паводле якога ўсіх пратэстантаў належала вяртаць у каталіцтва, а праваслаўных пераварочваць ва уніяцтва. Берасцейская унія стала сродкам, каб падпарадкаваць каталіцкай царкве праваслаўных, а затым наогул ператварыць іх у каталікоў. Разам з тым у Беларусі дзейнічалі таксама іудзейскія і мусульманскія абшчыны.










1. Епіскап
2. Біскупы
3. Кардынал

**Канфесіянальны склад насельніцтва Рэчы Паспалітай**
(на сярэдзіну XVII ст., у працэнтах)



# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ у XVII ст.

Адукацыя і кнігадрук на беларускіх землях, як і ў цэлым у ВКЛ, мелі выключна рэлігійны характар. Бясспрэчная перавага тут была на баку каталікоў, і перш за ўсё езуітаў. Яны мелі вышэйшую навучальную ўстанову – Віленскую акадэмію, калегіумы амаль ва ўсіх буйных гарадах ВКЛ, а таксама школы па ўсёй дзяржаве. Значную ролю ў справе асветы адыгрывалі праваслаўныя брацтвы. Яны дзейнічалі ў буйных гарадах на ўсходзе Рэчы Паспалітай. Існавалі таксама пратэстанцкія і яўрэйскія школы. Шмат друкарняў было ў руках езуітаў. Існавалі таксама друкарні уніяцкія, пратэстанцкія, праваслаўныя і іудзейскія. Значная ўвага ўдзялялася выпуску вучэбнай літаратуры. Шырока вядомымі былі „Граматыка“ М. Сматрыцкага і „Буквар“ С. Собаля.











1. „Граматыка“ Мялеція Смятрыцкага
2. Друкаваны верш Сімяона Полацкага
3. Студэнты і выкладчыкі акадэміі

# ВКЛ у першай палове XVIII ст.



Герб саксонскай дынастыі

У 1697 г. каралём Рэчы Паспалітай быў абраны саксонскі курфюрст Аўгуст II Моцны. З пачаткам Паўночнай вайны міжусобіца ў ВКЛ палыхнула з новай сілай. Сапегі падтрымалі шведаў, а Агінскія і Вішнявецкія сталі на бок Пятра I. У 1704 г. прыхільнікі Швецыі абвясцілі Аўгуста II звергнутым і абралі новага караля – Станіслава Ляшчынскага. У адказ прыхільнікі Аўгуста Моцнага падпісалі саюзны дагавор з Пятром I. Перамогі рускіх войскаў над шведамі замацавалі пазіцыі Аўгуста II, але яго ўлада была вельмі хісткай і абапіралася на падтрымку антышведскай кааліцыі. Да таго ж паводле шматбаковай дамовы аб уладзе ў Рэчы Паспалітай спадчыннікам Аўгуста II павінен быў стаць не яго сын, а Станіслаў Ляшчынскі.












1. Аўгуст II Моцны
2. Казімір Ян Павел Сапега
3. Станіслаў Ляшчынскі
4. Караль Станіслаў Радзівіл

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ у першай палове XVIII ст.

Яшчэ ў 1699 г. Саксонія, Данія і Расія заключылі антышведскі Паўночны саюз. У 1700 г. саксонскія войскі аблажылі Рыгу. Пасля перамогі над расійскай арміяй пад Нарвай шведскі кароль Карл XII разграміў і войскі Аўгуста II пад Рыгай. Хутка шведы ўзялі Вільню, Гародню, Варшаву і Кракаў. У 1704 г. каралём стаў шведскі саюзнік Станіслаў Ляшчынскі. Выціскаючы расійскую армію, шведы прайшлі праз усю Беларусь, страціўшы значную частку свайго войска ў бітвах, якія тут адбыліся. Асабліва важнай была перамога расійскай арміі пад вёскай Лясная. Далей шведскія войскі рушылі ва Украіну, дзе былі канчаткова разгромлены Пятром I у бітве над Палтавай. Карл XII разам з украінскім гетманам Мазепам уцёк у Асманскую імперыю. Рэч Паспалітая трапіла ў моцную залежнасць ад Расіі і яе саюзнікаў – Прусіі і Аўстрыі. Самастойнасць краіны была амаль страчана.





Карл XII


Шведскія захопнікі ў ВКЛ


Пётр I

# ВКЛ у сярэдзіне XVIII ст.



Сякера і мушкетон

Пасля заканчэння Паўночнай вайны на захадзе ВКЛ з'явіліся сталыя расійскія гарнізоны, працягвалася і барацьба магнацкіх груповак за ўласны ўплыў. Увесь цяжар здабывання сродкаў для магнатаў і іншаземных армій ляжаў на плячах сялян. Пагаршала становішча і тое, што маёнткамі кіравалі не самі паны, а арандатары, якія рабілі ўсё, каб за час свайго панавання забраць сабе як мага больш. Лютавалі і паны. Стала прынятым прадаваць маёнткі разам з сялянамі, мяняць іх на коней ці на паляўнічых сабак, прагульваць у карты ці проста дарыць. Ад бязвыхаднасці і галоты сяляне бунтавалі. Часам гэтыя бунты ператвараліся ў сапраўдныя сялянскія паўстанні, як гэта было на Крычаўшчыне і Мазыршчыне.





1


2


3


4

1. Паўстанцы
2. Аўгуст III
3. Ян Фрыдэрык Сапега
4. Міхал Казімір Радзівіл

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ у сярэдзіне XVIII ст.

З сярэдзіны XVIII ст. Рэч Паспалітая фактычна страціла сваю самастойнасць. На захадзе ВКЛ гаспадарылі расійскія войскі, на захадзе Польшчы нярэдка стаяла саксонская армія. Першым яскравым вынікам бездапаможнасці сталі падзеі 1733–1735 гг., калі памёр Аўгуст II і на прастол узышоў Станіслаў Ляшчынскі. Нягледзячы на папярэднія дамовы, Расія, Аўстрыя і Саксонія не пагадзіліся з гэтым выбарам Польшчы. Расійскія войскі занялі Варшаву, дзе дамагліся абрання каралём сына Аўгуста II Аўгуста III. Пад націскам войскаў фельдмаршала Мініха ў 1735 г. Ляшчынскі адмовіўся ад улады і з'ехаў у Францыю. Падчас Сямігадовай вайны расійскія і прускія войскі ўвесь час праходзілі праз тэрыторыю Рэчы Паспалітай, як быццам бы тая не была самастойнай краінай.





Расійскі фельдмаршал Мініх


Расійская імператрыца Елізавета


Герб С. Ляшчынскага

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ у XVIII ст.



Вялікі глобус
з Віленскага універсітэта

Жаданне магнатаў ВКЛ у XVIII ст. паказаць сваю вялікасць абумовіла іх прагу да архітэктуры і мастацтва. Магнацкія рэзідэнцыі з палацамі і паркамі з фантанамі і сажалкамі будаваліся па праектах заходнееўрапейскіх дойлідаў. Некаторыя рэзідэнцыі мелі нават уласныя тэатры. Войны і бязладдзе ў значнай меры адбіліся на стане асветы. Школы прыйшлі ў заняпад. Справа адукацыі ў XVIII ст. заставалася ў руках духавенства. Самым вялікім канкурэнтам езуітаў сталі піяры. У 1773 г. дзейнасць езуітаў у Рэчы Паспалітай была забаронена. Справа адукацыі перайшла пад апеку дзяржавы. Існавалі таксама праваслаўныя, уніяцкія і іудзейскія школы.






1



2



3



4

1. Нясвіжскі палац
2. Ружанская брама
3. Нясвіжская брама
4. Георгій Каніскі

# АСВЕТНІЦТВА Ў ЕЎРОПЕ

Асветніцтва ў Еўропе ўзнікла ў XVII ст. і шырока распаўсюдзілася ў XVIII ст. Першымі краінамі, якія прапанавалі неабходнасць панавання ў грамадстве асветы, навукі і свабоды ад царкоўнага прыгнёту, былі Галандыя і Англія. Найвышэйшых поспехаў на гэтым шляху дасягнула Францыя. Ідэі Вальтэра, Дзідро, Мантэск'е распаўсюдзіліся далёка за межамі іх радзімы. Нават магутнейшыя гаспадары Еўропы – Кацярына II Расійская, Фрыдрых II Прускі, Марыя Тэрэзія Аўстрыйская – лічылі для сябе неабходным дзейнічаць як „асвечаныя“ манархі. У еўрапейскіх сталіцах і іншых буйных гарадах Еўропы пачалі ствараецца акадэміі навук, узніклі навуковыя выданні. Універсітэты паступова страчвалі сваю рэлігійную накіраванасць на карысць свецкай адукацыі. У ВКЛ яскравым прыкладам Асветніцтва стала дзейнасць Адукацыйнай камісіі.









1. Ілья Капіевіч
2. Антоній Тызенгаўз
3. М. Пачобут-Адляніцкі
4. Міхал Казімір Агінскі

# ГАНДАЛЬ ВКЛ у другой палове XVIII ст.



Залаты дукат

У XVIII ст. буйны гандаль цалкам трапіў у рукі магнатаў. Яны гандлявалі перш за ўсё збожжам, лесам, ільном і таксама пянькой і гарэлкай. Каб павялічыць панскія даходы ад гандлю лесам, у другой палове XVIII ст. пачалі будавацца суднаходныя каналы. У 1775 г. пачаў дзейнічаць Агінскі канал (названы так у гонар яго стваральніка – Міхала Казіміра Агінскага), крыху пазней – Каралеўскі. Паступова гандаль лесам заняў галоўнае месца. Дробны мясцовы гандаль захаваўся ў значнай ступені дзякуючы яўрэям, якія валодалі паловай усіх гарадскіх крам і абсалютнай большасцю мястэчкавых. Адзіным месцам, дзе можна было ў той час убачыць усю разнастайнасць мясцовай вытворчасці, былі кірмашы.




Срэбраны талер Станіслава Аўгуста Панятоўскага





Шклоўская ратуша

# МАНУФАКТУРЫ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ у XVIII ст.

На Беларусі першыя мануфактуры ўзніклі ў 1720–30-х гг. у маёнтках князёў Радзівілаў. Гэта былі Налібоцкая і Урэцкая шкляныя, а таксама Свержанская фаянсавая мануфактуры. Найбольшую вядомасць атрымалі Слуцкая і Нясвіжская мануфактуры шаўковых паясоў і Карэліцкая ткацкая мануфактура. Усе яны належылі Радзівілам. У канцы XVIII ст. вакол Гародні графам Тызенгаўзам былі закладзены першыя дзяржаўныя мануфактуры. Для наладжвання вытворчасці і кіраўніцтва мануфактурамі звычайна запрашаліся спецыялісты з Заходняй Еўропы, перш за ўсё з Германіі, а працавалі на гэтых прадпрыемствах прыгонныя сяляне. Аднак і ў Рэчы Паспалітай, і ў суседніх краінах большасць паноў цікавілася толькі забавамі і палітыкай, а не ўласнай гаспадаркай. Таму панскія, альбо прыгонныя, мануфактуры мелі вельмі кароткую гісторыю.





Магнацкі строй з поясам


Слуцкі пояс


Вырабы шкляных мануфактур

# ПАДЗЕЛЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ І ЎКЛЮЧЭННЕ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У СКЛАД РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ




Канстытуцыя 3 мая 1791 г.

У 1763 г. пасля смерці Аўгуста III новым каралём Рэчы Паспалітай стаў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Пачаліся рэформы, прагрэсіўныя колы шляхты імкнуліся пераадолець палітычны крызіс, у якім апынулася Рэч Паспалітая. Важнай падзеяй стала дзейнасць Чатырохгадовага сойма і прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Але рэформы былі сарваны кансерватыўнымі сіламі і ўмяшальніцтвам Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Менавіта гэтыя дзяржавы ажыццявілі падзелы Рэчы Паспалітай.












1. Кацярына II Расійская
2. Кароль Фрыдрых II Прускі
3. Марыя Тэрэзія Аўстрыйская
4. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі

# ПАЎСТАННЕ Т. КАСЦЮШКІ 1794 г.

Зусім не ўсе магнаты і шляхта схіляліся да Расіі, Аўстрыі альбо Прусіі. Былі тыя, хто верыў у незалежную і моцную Рэч Паспалітую і імкнуўся захаваць яе, правесці неабходныя рэформы. Пасля другога падзелу актывізавалася дзейнасць эмігранцкіх груповак, створаны былі тайныя арганізацыі і на тэрыторыі Польшчы і ВКЛ. Было падрыхтавана паўстанне, якое ўзначаліў генерал Тадэвуш Касцюшка. Яно пачалося ў Кракаве ў сакавіку 1794 г. і перакінулася на тэрыторыю Літвы і Беларусі, дзе ўзначаліў паўстанне Якуб Ясінскі. Але шырокім народным рухам паўстанне не стала. Яго галоўнай сілай была шляхта, якая імкнулася аднавіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 г.






Тадэвуш Касцюшка



Прысяга Тадэвуша Касцюшкі



Якуб Ясінскі

# ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**
**другая палова XVI – XVIII ст.**

**Атлас**

**Вучэбны дапаможнік для 8 класа**
**ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі**
**з беларускай мовай навучання**

Рэдактар Г. С. Малышава
Мастацкае афармленне А. С. Хацеева
Тэхнічны рэдактар Н. М. Шэвель

Падпісана да друку 14.07.2016. Фармат паперы 62х92 1/8.
Папера афсетная. Друк. арк. 3,0. Умоўн. друк. арк. 3,2.
Тыраж 5 000 экз. Заказ № 2090.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства „Белкартаграфія“.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/30 ад 19.08.2013.
Пр. Машэрава, 17 А, 220029, Мінск.
Тэл./факс: (017)284-71-59, 334-81-54.
E-mail: belkartograf@yandex.by
www.belkarta.by
www.белкартография.бел

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
„Выдавецтва „Беларускі Дом друку“.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/102 ад 01.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск.

